ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№4 (49) красавік 2015 год

CATHOLICNEWS.BY



## Дарагія дыяцэзіяне, шаноўныя чытачы "Каталіцкага Весніка"!

**Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

Вось надышоў час, калі мы зноў вітаем сябе ўзаемна гэтымі словамі, поўнымі радасці і надзеі. Такім чынам мы не толькі ўзгадваем вялікую і выключную падзею ў гісторыі чалавецтва, але і вызнаём праўду ў рэчаісную прысутнасць Божага Сына сярод нас! Магчыма, як ніколі раней, сёння нам патрэбнае ўсведамленне гэтай праўды, каб не згубіцца паміж выклікаў сучаснага свету. Свету, які сёння асабліва патрабуе прабачэння, згоды, адказнай і ахвярнай любові, супакою. А гэта і ёсць тыя дары, з якімі прыходзіць да нас Уваскрослы Хрыстос, каб дапамагчы нам стацца падобнымі да яго. *"Вось Я з вамі ва ўсе дні аж да канца свету"* (Мц 28, 20). А таму калі Бог пажадаў застацца з намі, то і яго перамога над грахом і смерцю можа стацца і нашай перамогай – у тым выпадку, калі шчырым сэрцам паверым ягонаму Слову.

Дарагія браты і сёстры! У дзень Светлай Хрыстовай Пасхі хачу пажадаць, каб кожны з вас змог сапраўды перажыць сустрэчу з Уваскрослым Хрыстом! Паспрабуйма за прыгожымі абрадамі і сімваламі, якія спадарожнічаюць гэтаму вялікаму святу, адчуць прысутнасць Божай любові, здольнай перамяніць нашыя сэрцы на лепшыя, а праз іх – зрабіць гэты свет больш людскім, утульным і бяспечным.

Са шчырага сэрца жадаю ўсім Божага баслаўлення, здароўя, радасці і супакою ад Уваскраслага Збаўцы! Са святам!

**Хрыстос уваскрос!**

+Алег Буткевіч,
біскуп Віцебскі

## Цуд у Неапалі

*Пра незвычайную з'яву, што адбылася ў Італіі,* *чытайце на старонцы 2*



## Прыгожае абуджае добрае

*Інтэрв'ю* *чытайце на старонцы 4*



## Што дрэннага ў татуіроўках?

*Чытайце на старонцы 7*



Каталіцкі ВЕСНІК
№4(49)
красавік 2015 г.

# Папа Францішак абʼявіў Год міласэрнасці



**Жывучы ў несправядлівым свеце, дзе пануюць хлусня, падман, грошы і іншыя заганы, кожны добры чалавек шукае і прагне выйсця з гэтага гаротнага стану.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Вельмі часта ў нашых душах назіранне за крыўдай і болем невінаватых выклікае абурэнне і жаданне помсты.Аледахрысціянскай свядомасці прамаўляюць словы нашага Бога праз вусны прарока Езакіэля: *"Скажы ім: жыву Я. Кажа Госпад Бог: не хачу смерці грэшніка, а каб грэшнік адвярнуўся ад шляху свайго і жывы быў"* (Ез. 33, 11). У Новым Запавеце асаблівам чынам Бог адкрывае нам, што ён *"багаты міласэрнасцю"* (Эф. 2, 4) аж да таго, што аддае Свайго Сына. Евангелле ёсць адкрыццё ў Езусе Хрысце міласэрнасці Божай да грэшнікаў. Апостал Пётр у сваім пасланні таксама сцвярджае: *"Ён цярплівы для вас, не хочучы нічыёй загубы, але хочучы ўсіх давесці да навяртання"* (2 Пт. 3, 9).

Як нагадванне пра міласэрнасць нашага Бога, якую павінен сведчыць сваёй прысутнасцю ў гісторыі чалавецтва Хрыстовы Касцёл, 13 сакавіка 2015 г. Папа Францішак абвясціў аб сваім рашэнні правесці ў Касцёле пазачарговы Юбілейны год. Ён пачнецца адкрыццём Святой брамы ў базыліцы св. Пятра 8 снежня 2015 г., ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, а закончыцца 20 лістапада 2016 г, ва ўрачыстасць Пана Нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету. Юбілей прымеркаваны да піцідзесяцігоддзя закрыцця II Ватыканскага сабору. *"Я часта думаў пра тое, як Касцёл можа зрабіць яшчэ больш відавочным сваю місію быцця сведкам міласэрнасці. Гэта шлях, які пачынаецца ад духоўнага навяртання. Таму я вырашыў абвясціць надзвычайны Юбілей, які будзе мець у сваім цэнтры міласэрнасць Бога"*, – сказаў Папа і заклікаў перажыць яго, натхняючыся евангельскімі словамі: *"Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны"*.

Урачыстае і афіцыйнае абвяшчэнне Святога года адбудзецца ў Нядзелю Божай Міласэрнасці 12 красавіка 2015 г., калі перад Святой брамай будзе зачытана адпаведная папская була. Пачатак Юбілею будзе пазначаны адкрыццём так званых "святых дзвярэй", якія ёсць у кожнай з чатырох папскіх базылік Рыма. Яны адкрываюцца толькі падчас Юбілейнага года, а ў іншы час застаюцца замураванымі. Абрад адкрыцця гэтых дзвярэй указвае на тое, што ў час Юбілею для вернікаў даступны "надзвычайны шлях" да збаўлення.

Практыка правядзення юбілейных гадоў бярэ свой пачатак у часах Старога Запавету. Юбілейны год абʼяўляўся адзін раз на пяцьдзясят гадоў. Яго асаблівасцямі было тое, што ў гэты год не апрацоўваліся палі, дазвалялася збіраць самародныя плады ўсім без выключэння і без усялякіх абмежаванняў, а не толькі ўладальнікам зямлі, на якой яны вырасталі, прабачаліся даўгі супляменнікам, аднакроўныя рабы (г. зн. рабы з ліку яўрэяў) адпускаліся на волю, спадчынныя землі і маёнткі, якія былі закладзеныя ці забраныя за даўгі, вярталіся іх ранейшым уладальнікам з пэўнай кампенсацыяй асобе, што імі валодала перад пачаткам юбілею. Акрамя таго, у юбілейны год прадпісвалася ўсенародна чытаць Закон Божы.

У Старым Запавеце асноўнай мэтай юбілейнага года было захаванне пераемнасці землеўладання іаднаўленне ў правах спадчыннага ўладальніка з тым, каб захаваць цэласнасць і неадчужальнасць надзелаў кален Ізраілевых і тым самым забяспечыць сацыяльную справядлівасць.

> **"Сэнс юбілейнага года заключаецца ў прабачэнні і ў магчымасці абнавіць свае адносіны з Богам і бліжнім"**

Каталіцкі Касцёл надзяліў яўрэйскі юбілейны год духоўным сэнсам. Ён заключаецца ў прабачэнні, у адпушчэнні дачаснай кары за грахі, якую можа атрымаць кожны, і ў магчымасці абнавіць свае адносіны з Богам і бліжнім.

Традыцыя Юбілейных гадоў у Каталіцкім Касцёле пачалася пры Папу Баніфацыю VIII у 1300 г. Такая ўрачыстасць павінна была праходзіць адзін раз на сто гадоў. Пачынаючы з 1475 г., было вырашана святкаваць Юбілейны год раз на 25 гадоў, каб даць магчымасць кожнаму пакаленню перажыць прынамсі адзін Святы год. Пазачарговыя юбілеі абвяшчаліся ў асаблівых выпадках з XVI ст. Да сённяшняга дня ў Касцёле было адсвяткавана ўсяго 26 юбілейных гадоў. Апошні адбыўся ў 2000-ым. Найбольш блізкія пазачарговыя Юбілеі адзначаліся ў 1933 г. з нагоды 1900-годдзя Адкуплення і ў 1983 г. – з нагоды 1950-годдзя Адкуплення.

Атрымліваючы такую ласку, якая чарговы раз даецца нашаму пакаленню, няхай кожны з нас зверне сваю ўвагу на Божую любоў і міласэрнасць, якая пакрывае мноства грахоў. Бачачы несправядлівасць ва ўчынках іншых і самім яе чынячы, будзем асаблівым чынам на працягу гэтага года маліцца да нашага Айца аб ласцы навяртання для тых, хто псуе Божы парадак у свеце. Разам з малітвай будзем сваім жыццём і актыўным прыкладам дапамагаць гэтаму парадку і Божай праўдзе ўкараніцца ў нашым грамадстве, нашых семʼях і калектывах, памятаючы, што *"любоў пакрывае мноства грахоў"* (Пт. 4, 8).

# У Неапалі адбылася незвычайная зʼява пасля пацалунку рэліквіярыя Папам Францішкам



**"Быць святарамі і законнікамі – цудоўна", – адзначыў Папа Францішак 21 сакавіка падчас сустрэчы з неапальскім духавенствам, кансэкраванымі асобамі і сталымі дыяканамі, якая прайшла ў мясцовым архікатэдральным касцёле. Перад сустрэчай Пантыфік памаліўся каля рэліквій св. Януарыя, апекуна горада, якія захоўваюцца ў базыліцы.**

"Трэба заўсёды знаходзіць час для таго, каб пабыць перад табернакулюмам, пабыць у маўчанні, каб адчуць на сабе позірк Езуса, Які абнаўляе і вяртае да жыцця", – напісаў Папа ў пасланні, што перадаў удзельнікам сустрэчы.

"Менавіта малітва паказвае: мы крочым па шляху жыцця ці па шляху падману, дзейнічаем як добрыя працаўнікі або ператвараліся ў "служачых", зʼяўляемся адкрытымі каналамі, праз якія выходзіць любоў і ласка Пана, або ставім сябе ў цэнтр, ператвараючыся ў "агароджы", каторыя не дапамагаюць сустрэчы з Панам", – напісаў Папа.

Падчас спаткання Святога Айца з неапальскім духавенствам і кансэкраванымі асобамі кроў св. Януарыя, якая захоўваецца ў спецыяльным рэліквіяры і звычайна перабывае ў зацвярдзелым стане, пачала пераўтварацца ў вадкую. Традыцыйна падобная зʼява адбываецца ў часе ўспаміну нябеснага апекуна горада – 19 верасня.

"Св. Януарый любіць Папу Францішка, кроў стала вадкай напалову", – абвясціў арцыбіскуп Неапаля кардынал Крэшчэнца Сэпэ пасля таго, як Пантыфік пацалаваў рэліквіярый. Францішак у адказ пажартаваў, што "калі напалову – гэта значыць, трэба яшчэ прыкласці намаганні для навяртання".

*Ватыканскае радыё*

# У Пакістане малады католік накрыў сабой тэрарыста-смяротніка на ўваходзе ў касцёл

**Тэрарыст-смяротнік паспрабаваў пракрасціся на тэрытoрыю каталіцкага касцёла св. Яна ў горадзе Лахор (Пакістан). Яго сустрэлі два юнакі-ахоўнікі, перашкодзіўшы зайсці ўнутр храма.**



Убачыўшы непахіснасць радыкала, які вырашыў любой цаной здзейсніць тэракт, адзін з ахоўнікаў абняў яго ў момант самападрыву.

Сведкі адзначаюць, што подзвіг маладога чалавека, які накрыў сабой смяротніка, выратаваў шматлікіх вернікаў, што знаходзіліся ў касцёле. У той жа час выбух у суседняй пратэстанцкай царкве забраў вялікую колькасць ахвяр.

Паведамляецца, што на момант смерці маладому ахоўніку Акашу Башыру (Akash Bashir) споўнілася ўсяго дзевятнаццаць гадоў. Юнак, які нядаўна скончыў мясцовую Салезіянскую мастацкую школу, пражываў у хрысціянскім раёне Лахора – Ёханабадэ.

Арцыбіскуп Лахорскі Себасцьян (Шо) узначаліў памінальную малітву аб усіх загінулых вернiках касцёла св. Яна. У сваёй прамовеіерархпадкрэсліў самаахвярнасць подзвігу юнака, "які аддаў сваё жыццё за сваіх братоў у Хрысце".

*katolik.ru*

## Пошта рэдакцыі

***Хвала Хрысту!***

*Паважаная рэдакцыя «Каталіцкага Весніка», на працягу некалькіх год зʼяўляюся вашай пастаяннай чытачкай. Газета заўсёды захапляе. Чытаю ўсё, прыношу на працу і даю пачытаць сваім калегам. Знайшла адказы на некаторыя хвалюючыя мяне пытанні. Скарысталася паслугамі «Газетнай закрыстыі». Рада, што дзякуючы газеце змагла набыць кнігі а.Д. Манджакала, якімі зацікавілася пасля рэкалекцый у нашым касцёле ксяндза-экзарцыста.*

*Свой ліст я павінна была даслаць раней, але ўсё, як кажуць, рукі не даходзілі. Справа ў тым, што мая мама ахвяравала грошы для газеты і збіралася рабіць гэта і далей, але Пан Бог паклікаў яе да сябе. Памерла мама два гады таму ў Вялікую Пятніцу, а ў Вялікі Чацвер атрымала з газеты ліст з падзякай і віншаваннем з надыходзячым Вялікаднем. Для яе гэта была вялікая радасць.*

*Ведаю, што рэгулярна адпраўляецца Імша ў інтэнцыі ахвярадаўцаў, таму прашу аб малітве за маму, як за памерлую.*

*Яшчэ раз дзякуй Вам за Вашу працу. Поспехаў Вам і Божай і людской дапамогі. Шчыра віншую з надыходзячым святам!*

***З павагай Святлана Грышкевіч, аг. Параф'янава***

# У друйскім кляштары з’явілася трэнажорная зала

**У барочных інтэр’ерах кляштара ў Друі пры парафіі Найсвяцейшай Тройцы з’явіліся нечаканыя прылады – поўны камплект трэнажораў для “качальнай” залы.**

У якасці тлумачэння, чаму ў кляштары ўсталявалі такія немалітоўныя рэчы, пробашч кс. Сяргей Сурыновіч нагадвае лацінскую прымаўку: mens sana in corpore sano (у здаровым целе – здаровы дух). Жарты жартамі, але факт: ля брамы касцёла адразу пачала натоўпіцца моладзь. Цягам двух дзён друйскія падлеткі збіралі трэнажоры, якія будуць знаходзіцца ў памяшканнях кляштара, папярэдне падрыхтаваных тымі ж падлеткамі. Дарэчы, моладзь, якая некалькі тыдняў таму і ўявіць не магла, што ў Друі з’явіцца сапраўдная трэнажорная зала, ведае ўмову яе выкарыстання: ключы ад залы ў ксяндза можна атрымаць па сканчэнні Імшы, прысутнасць на якой абавязковая.

Тым не менш кс. Сяргей Сурыновіч не збіраецца абмяжоўваць арганізацыяй карыснага і, што важна ў вёсцы, цвярозага баўлення часу толькі для каталіцкай моладзі. Дзверы ў кляштар расчыненыя і для праваслаўных падлеткаў, якія таксама без мэты бадзяюцца па друйскіх вуліцах. “З першага дня з’яўлення трэнажораў у кляштары, – апавядае святар, – тут шмат маладых людзей. Я расчыніў дзверы для ўсіх, не зважаючы на канфесійную прыналежнасць. Думаю, што мясцовы бацюшка мяне падтрымае і не будзе супраць, бо гэта справа не дзеля таго, каб прыцягнуць кагосьці ў касцёл, а каб, дбаючы пра занятасць падлеткаў, не аддаць іх пад уплыў вуліцы. Бо ў вясковых дзяцей, пры тым, што школа стараецца зацікавіць іх рознымі факультатывамі і гурткамі, усё ж куды менш магчымасцяў, чым у гарадскіх равеснікаў. Другое, што важна вельмі для мяне, гэта паспрыяе асабістаму кантакту падлеткаў са святаром”.

Уладкаванне трэнажорнай залы стала магчымым дзякуючы прадпрымальніку са сталіцы, католіку-практыку, які прапанаваў фінансавую дапамогу пры ўмове, што аб’ектам мецэнацтва стане не набыццё будаўнічых матэрыялаў, а стварэнне рэальнага аб’екта, каторы прыцягне ў святыню моладзь, у тым ліку і далёкую ад рэлігійных традыцый.

Спартыўны комплекс заняў практычна ўсё крыло першага паверха кляштара: гэта сілавыя ўстаноўкі, турнікі і брусы, прылады для прэсу, бегавая дарожка, велатрэнажор, тэнісны стол. Цікавасць да спартовых прыладаў ужо выказала не толькі друйская моладзь, але і дарослыя людзі.

*krynica.info*



# Ці бачым мы Бога?

*Наша зямля – гэта паднoжжа Божае. Хто яе трымае? На чым яна так роўна вісіць? Наша зямля пакрыта дываном прыгожых траў, кветак, упрыгожана стужкамі рэк, люстэркамі азёр, мораў і акіянаў. Усё на сваім месцы: вада не выльецца, гарады не ссыплюцца. Усё жыве, расце, цвіце – кожнае ў свой час. Якой сілай трымаюцца сонейка, месяц, зоры? Хто такі моцны, каб утрымаць сонца і самому не згарэць?*

*Поры году ідуць сваім парадкам. Зіма змяняецца вясной, вясна – летам, лета – восенню... Усё ў такой гармоніі і такой святасці і любові! Вось каб людзі на ўсёй зямлі жылі ў міры, любові і згодзе, каб не ведалі вайны, голаду, хвароб, не ведалі, што такое грэх, не ведалі ніякага зла.*

*Чалавек нарадзіўся для любові, святла і чысціні. Дзе любоў, там не можа быць зла. Калі глядзець з неба на зямлю вясной, то ўсё паўстае ў бела-ружовай квецені з зелянінай лугоў і лясоў. Водар кветак нясецца да неба. Спеў птушак з усёй зямлі ляціць да неба. Усё жывое славіць Бога, свайго Айца. А людзі, людзі ад усіх сэрцаў сваіх моляцца, спяваюць хвалу Богу ў капліцах, касцёлах, дамах.*

*Летам ўсё цвіце, жыве, пладаносіць, корміць зямля ўсё жывое. Цёплы ветрык, дожджык, вясёлка. Нібы Бог кажа: «Я тут!»*

*Увосень усё жоўтае. Чароды птушак узнялі на крыло сваё патомства, звяры са сваімі дзецьмі. Усё радуецца...*

*А зімачка-зіма! Усё навокал белае і пухнатае. Гэта Маці Божая ўкрыла зямлю сваім нябесным шалем.*

*Дык жывіце ўсе ў радасці, слаўце Бога, бо гэта ўсё ягонае, усё з яго рукі, з яго любові, з яго міласэрнасці!*

*Дзякуй, Божа, што Ты ёсць сярод нас. Дзякуй за ўсіх анёлаў і святых. Дзякуй за Тваё Святое Слова. Дзякуй за ўсё, што Ты даеш. Будзем вечна славіць мы Цябе!*

***Альдона Сіўко**, в. Забалацце (Мёрскі р-н)*

# Як правільна сказаць па-беларуску: “ГВАЛТ НАД НАРОДАМ” ці “ГВАЛТ З НАРОДУ”?

**Назоўнік *гвалт* дастаткова частотны і ў вусным маўленні, і ў пісьмовых тэкстах розных стыляў. Але пры ўтварэнні сінтаксічнай канструкцыі з названым словам часта перад карыстальнікамі мовы паўстае праблема выбару правільнага варыянта. Як павінна быць: *чыніць гвалт над народам* ці *чыніць гвалт з народу*?**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Прафесар І. Лепешаў адзначае, што назоўнік *гвалт*, будучы мнагазначным словам, “у адным са сваіх значэнняў часткова супадае з адным значэннем таксама мнагазначнага назоўніка *здзек*” (Лепешаў І.Я. Сучасная беларуская літаратурная мова: спрэчныя пытанні. – Гродна, 2002. – с. 191). А, як вядома, слова *здзек* утварае спалучэнне з прыназоўнікам *з* і назоўнікам ці займеннікам ў родным склоне: *здзек з людзей, здзек з сябе* і г.д. Відавочна, пад уплывам названых канструкцый пашырыліся ўжыванні кшталту *гвалт з народу, гвалт з іх* і інш. Між тым моўная практыка выразна сведчыць, што ў якасці агульнапрынятай у нашай мове замацавалася канструкцыя “назоўнік *гвалт* + прыназоўнік *над* + *творны склон*”. Менавіта названую схему і варта лічыць нормай. Гэта пацвярджаецца і многімі прыкладамі з мастацкіх ды публіцыстычных тэкстаў розных часоў, напісаных выдатнымі знаўцамі беларускай мовы. Прывядзём колькі прыкладаў: *“Ды покі будзе сэрца біцца, / Яно не можа пагадзіцца / Ні з гэтым* ***гвалтам****, ні з бядою /* ***Над*** *нашай роднаю* ***зямлёю****”* (Якуб Колас); *“Нібы сатыра на нібы паэму –* ***гвалт над формай****”* (Кандрат Крапіва); *“Не чыніць* ***гвалту над сваім талентам****”* (Рыгор Шкраба); *“****Гвалт над мовай****, над усім здаровым сэнсам наогул”* (Ніл Гілевіч). Як бачна, вядомыя аўтары, бліскучыя знаўцы беларускага слова аддаюць перавагу менавіта спалучэнням з творным склонам.

Такім чынам, па-беларуску трэба казаць, напрыклад, *гвалт над народам*, а не *гвалт з народу*; *гвалт над імі*, а не *гвалт з іх*.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

Каталіцкі ВЕСНІК №4(49) красавік 2015 г.

# Ганна Шакола: "Прыгожае абуджае добрае"



**Ганна Шакола – не толькі шчырая верніца Каталіцкага Касцёла, але і аўтар музыкі да шматлікіх песень. Пра натхненне, таленты і духоўнае выхаванне моладзі пойдзе гаворка ў гэтым інтэрв'ю.**

**кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

**– Ганна Казіміраўна, парафіяне з Глыбокага і не толькі знаёмыя з Вашай творчасцю даўно. Скажыце, калі Вамі была напісаная музыка для песні ўпершыню?**

– Гэта адбылося 15 гадоў назад. Я працавала ў школе №3 горада Глыбокае. І да мяне звярнуліся з просьбай напісаць вальс для апошняга званка. Я, праўда, не ведала, што рабіць. Не ўяўляла сабе, як пішацца музыка. Але села за раяль, дакранулася да клавішаў – і мелодыя з'явілася сама сабой. Сёння гэты вальс выконваецца кожны год у нашай школе.

**– Цяпер, несумненна, у Вас багаты вопыт у творчасці?...**

– Гэта праўда. Я з'яўляюся аўтарам музыкі для больш чым ста песень. Не ўсе яны выконваліся публічна, але многія ўвайшлі ў зборнікі, некаторыя сталі пераможцамі ў конкурсах. Такія, напрыклад, як песня "Да Маці Божай Будслаўскай" і "Сафійскі Сабор". Мяне вельмі радуе, што пабачыў свет музычны альбом, куды ўвайшлі 30 песень з маім суаўтарствам.

**– Якая тэматыка Вашых песень?**

– Усё залежыць ад словаў. Я ахвотна пішу музыку як да свецкіх, так і да рэлігійных твораў. Хаця па колькасці пераважае свецкая тэматыка. Ёсць песні пра каханне, пра наш родны горад, пра трагедыю Афганістана. Бывае, што песня пішацца ў якасці падарунка. Маім сябрам-выканаўцам я іх проста дару, і яны іх выконваюць. Але ёсць і вельмі асабістыя творы, якія я выконваю толькі сама.

**– Дык што такое натхненне? Падзяліцеся, калі ласка, сваімі развažаннямі.**

– Натхненне – гэта нейкае жаданне і прага нараджэння новага. Надыходзіць момант, калі ты раптам адчуваеш усёй сабой, што вось-вось з'явіцца песня. Ведаеце, бывала, што песні пісаліся ў мяне проста ў ложку. Перад сном чытала верш, на словы паўставала мелодыя, а назаўтра ў школе на перапынках усё гэта запісвалася на ноты. Хаця асабіста ў мяне найлепшы час для творчасці – гэта раніца. Не ведаю, чаму менавіта так.

**– Без Божага дару, без таленту і без натхнення немагчыма стварыць мелодыі. А як наконт дапаможных чыннікаў кшталту музычнай адукацыі, выхавання? Гэта дапамагае?**

> **"...мне вельмі баліць, што сёння ў беларускіх школах з 5 класа няма ў праграме музыкі і не выкладаецца гісторыя сусветнай культуры. Я лічу гэта вялікай памылкай..."**

– Безумоўна. Паглядзіце на гэты цудоўны раяль. Можаце сабе ўявіць, што гэта – спадчына нашай сям'і, якая дасталася нам ад дзядулі Антона. Ён быў простым вясковым чалавекам, звычайным селянінам. Але ў XIX ст., калі заўважыў музычныя здольнасці ў сваіх дзецях, абмяняў карову на гэты раяль. Карова ў тыя часы каштавала вялікіх грошай і была для сям'і ў вёсцы асновай дабрабыту. Мой дзед, аднак, выдатна разумеў, што выхоўваць дзяцей трэба таксама і духоўна. Недастаткова іх толькі накарміць і апрануць. І вось, дзякуючы майму дзеду Антону, сёння і я, і мая дачка, і мае ўнукі – усе захапляюцца музыкай.

**– Можа, якраз музыка выратуе сённяшнюю моладзь ад пагрозы абыякавасці і чэрствасці ў сэрцы?**

– Я перакананая, што і музыка, і выяўленчае мастацтва, наогул культура – гэта тыя чыннікі, якіх нельга пазбаўляць дзяцей у выхаваўчым працэсе. І мне вельмі баліць, што сёння ў беларускіх школах з 5 класа няма ў праграме музыкі і не выкладаецца гісторыя сусветнай культуры. Я лічу гэта вялікай памылкай. Нельга навучыць дзяцей толькі чытаць і лічыць. Інакш яны вырастуць счарсцвелымі і нячулымі да прыгажосці і духоўнасці. "Прыгожае абуджае добрае", – гэта мой дэвіз яшчэ са школы.

**– Падзяліцеся напрыканцы сваім густам. Якую музыку Вы самі любіце слухаць?**

– Гэта, канешне, класіка. Слухаючы яе, адчуваеш глыбіню таленту аўтара і ажываеш душой.

## Букет для Нябеснай Маці

Марыя Гербедзь — Ганна Шакола

1.2. Букет для Нябеснай Маці складу я з кветкаў найлепшых. У ім будзе блакіт нябёсаў і зелень лугоў, лясоў.
Букет для Нябеснай Маці складу я з песняў і вершаў, складу я з пачуццяў узнёслых, са шчырых ад сэрца слоў.
3. Прыйду да Марыі, укленчу, схілю галаву і плечы – мой сціплы букет прымі, дзяцей сваіх абдымі.

2. У букет для Нябеснай Маці
Вазьму чысціню лілеі,
Вазьму я рамонак белы
І кветачкі васількоў.
Букет для Нябеснай Маці
Складу я з сваёй надзеі,
Складу я з адданай веры,
Дадам да ўсяго любоў.




### Ад рэдакцыі

У рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" **можна замовіць** музычны **дыск Ганны Шаколы**, дзе гучаць песні ў яе выкананні на свецкую і рэлігійную тэматыку.

**Кошт дыска – 39000 руб.**

**Каб замовіць дыск, неабходна патэлефанаваць у рэдакцыю па нумары +375 29 736 53 07 або напісаць ліст.**

Прапануем таксама ўвазе нашых чытачоў песню "Букет для Нябеснай Маці", музыку да якой напісала Ганна Шакола на словы Марыі Гербедзь. Песня друкуецца ўпершыню.

## Пахвалёны Езус Хрыстус! Паважаная рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"!

*Праз вашу газету хочацца даслаць словы падзякі і віншавання* ***ксяндзу Генадзю Добруку*** *– пробашчу Ідолтаўскай парафіі Мёрскага раёна – з нагоды Дня нараджэння.*

*26 красавіка ксёндз Генадзь адзначае свой юбілейны Дзень нараджэння.*

*Мы, жыхары аддаленых вёсак, адносімся да Ідолтаўскай парафіяльнай супольнасці. Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу за свайго ксяндза і молімся аб патрэбных для яго ласках. Ксёндз Генадзь пастаянна наведвае нашу капліцу, цэлебруе святую Імшу, наведвае дома хворых і нямоглых, якія не ў стане дайсці да капліцы, удзяляе неабходныя ім сакраманты. Ён даязджае да нас, нягледзячы на нашы вельмі кепскія дарогі, каб данесці слова Божае, каб мы не адчувалі сябе пакінутымі, каб свята было ў кожнага, хто гэтага хоча.*

*Ксёндз Генадзь дзеліць з намі нашыя радасці і нашыя беды. А якімі асабліва кранальнымі з'яўляюцца яго малітвы за нашых родных памерлых! Ксёндз Генадзь заўсёды знаходзіць жывыя словы, якія кранаюць нашыя сэрцы, падтрымліваюць у цяжкія хвіліны і напаўняюць спакоем. Яго мудрыя і шчырыя навучанні вяртаюць надзею, што ўсё будзе добра.*

*З першых дзён працы ксяндза Генадзя мы ўбачылі чулага, шчырага і спагадлівага пастыра, які ведае адказы на ўсе нашы пытанні. Для кожнага ён мае месца ў сваім сэрцы. З Божай дапамогай, дзякуючы цярпенню і шчырасці ў малітве, ён вучыць нас любіць Пана Бога і Панну Марыю. Ксёндз Генадзь прымае нас такімі, якія мы ёсць, з усімі нашымі праблемамі, няшчасцямі, недахопамі.*

*Нам хочацца сардэчна падзякаваць айцу Генадзю, што заўжды знаходзіць час памаліцца ў нашых інтэнцыях, нашых просьбах, за нястомную працу, за дар рабіць людзям дабро. Вялікі дзякуй за тое, што ён атуляе нас сваёй пастырскай апекай, запальвае агеньчыкі любові да Бога ў нашых грэшных душах.*

*Абароненыя яго малітвай, мы адчуваем сябе ўпэўнена, спакойна і радасна, быццам частка Божага бласлаўлення і таленту, падараваных яму Панам Богам, перападае і нам, яго парафіянам.*

*У Дзень нараджэння святара нам хочацца папрасіць у ксяндза Генадзя прабачэння за нашу людскую няўдзячнасць, за нашу нястрыманасць, за наша неабдуманае слова або ўчынак.*

*А з нагоды юбілею шаноўнаму ксяндзу Генадзю выказваем нашыя найлепшыя, сардэчныя пажаданні здароўя, міласэрнасці Божай і неабходных ласкаў у нялёгкім святарскім жыцці. Няхай Пан Бог штодзённа дадае нашаму пробашчу сілы, аптымізму і надзеі на лепшае.*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю вернікі з вёсак Асада і Дзедзіна***

# Чаму беларусы чакаюць Папу?

**Падчас афіцыйнага візіту ў Беларусь кардынал П'етра Паралін, Дзяржаўны Сакратар Папы Францішка, адзначыў, што каталіцкая супольнасць нашай краіны заслугоўвае прыезду Пантыфіка.**

**А чаму беларускія каталікі чакаюць Папу?**

*Ірына Грэйць*

**Кацярына Качарго:**

– Я вельмі чакаю сустрэчы з Папам, бо праз яе мы зможам узмацніць сваю веру. Я перакананa, что сустрэча з ім натхніць кожнага верніка, дапаможа яшчэ мацней паверыць у Бога, адкрыць для яго свае сэрцы. Хочацца проста памаліцца разам з Папам. Бо, магчыма, праз яго мы зможам знайсці адказы на нашыя пытанні. Хочацца, каб ён убачыў сваімі ўласнымі вачыма нашу краіну, веру і любоў да Бога і бліжніх. Спадзяюся, што добры і міласэрны Бог пачуе нашыя малітвы, і Папа Францішак прыедзе ў Беларусь!

**Аляксандр Глекаў:**

– "Беларусь чакае Папу!" – гэтыя словы гучалі падчас тэлемосту з Ватыканам у мінскай катэдры ў 2008 годзе, суправаджалі Дзяржаўнага Сакратара Папы Рымскага Тарчызіа Бертонэ падчас яго візіту сем гадоў таму назад і вось цяпер з новай сілаю былі звернуты да П'етра Параліна, які змяніў кардынала Бертонэ на пасадзе Дзяржсакратара.

Так, Беларусь чакае Папу! Папа Рымскі – вельмі значная асоба ў міжнароднай супольнасці. Для краіны візіт кіраўніка Каталіцкай Царквы шмат значыць у дыпламатычным плане. Для Беларусі, якая знаходзіцца на фактычнай мяжы праваслаўя ды каталіцтва, гэта яшчэ адзін шанец нагадаць, што тут мірна суіснуюць розныя галіны хрысціянства ды іншых рэлігійных рухаў. Беларускія каталікі чакаюць Папу, бо гэта магчымасць прывітаць кіраўніка Касцёла на сваёй зямлі. Такі візіт стане пацвярджэннем таго, што пра іх памятаюць на такім высокім узроўні, памятаюць, нягледзячы на тое, што паводле колькасці ўсіх людзей у свеце, каторыя вызнаюць каталіцкую веру, беларусаў – кропля ў моры. Але ўжо адным сваім існаваннем каталікі Беларусі сцвярджаюць, што вера ў Бога можа ператрываць цяжкасці, прыгнёт, гады атэізму. Дзякуючы нашым дзядулям і бабулям чвэрць стагоддзя таму ў касцельных сценах загучала малітва замест разнарадкі, мяхі з зернем саступілі месца алтарам. І таму Папа Рымскі ў Беларусі – гэта падзяка нам за аднаўленую веру у Бога і ў людзей.

Для мяне магчымы візіт Папы ў Беларусь – гэта сапраўднае свята. Свята сустрэчы з чалавекам, што сваім прыкладам паказвае, як трэба наследаваць Хрыста ў жыцці. Свята вызнання веры. Спадзяюся, Беларусь дачакаецца Папу. І я разам з ёй.

**Дзіяна Лапушынская:**

– Напэўна, кожны беларускі каталік хацеў бы сустрэцца з Папам. Усе мы вельмі чакаем візіту Святога Айца ў нашу краіну. Каб усе разам з Папам маглі памаліцца за сваю краіну на роднай зямлі. Гэта была б вельмі значная падзея для ўсіх вернікаў Беларусі. Папа, з'яўляючыся наступнікам святога Пятра і намеснікам Хрыста, такcама і пастыр усяго Касцёла на зямлі. Сустрэць і ўбачыць Папу – азначае сустрэць нашага пастыра, якому нас даручыў Хрыстус. Папа – гэта той чалавек, які мае вялікую сувязь з Богам. Святы Айцец з'яўляецца для ўсіх нас прыкладам любові і ахвярнага служэння Богу і ўсяму Касцёлу. Ён паказвае нам, як мы павінны любіць Бога і сваіх бліжніх.

Я таксама вельмі чакаю візіту Папы ў Беларусь. Хочацца ўбачыць Папу, пачуць яго словы, убачыць яго цёплы і добры позірк, дабразычлівую ўсмешку, паразмаўляць з ім і падзякаваць яму за самаахвярнае служэнне, а таксама за тое, што даносіць да ўсіх слова Божае. Уражвае тое, што Папа, нягледзячы на яго высокі ранг, застаецца вельмі простым чалавекам і адкрытым для ўсіх. Святы Айцец сваім уласным прыкладам паказвае веру і пакору сапраўднага хрысціяніна.

Папа мае "вялікае" і вельмі добрае сэрца, якое напоўнена любоўю да Бога, Касцёла і бліжніх, здольнае дадаць веры кожнаму з нас. Святы Айцец умее знайсці кантакт як са старэйшымі, так і з моладдзю. Папа ўдзяляе шмат увагі людзям, асабліва бедным, пакінутым і хворым, усім тым, каму найбольш патрэбна падтрымка і дапамога. Гэта па-сапраўднаму вельмі добры, адкрыты, справядлівы і мудры чалавек, які з'яўляецца для мяне прыкладам сапраўднай і адданай любові да Бога і бліжніх. Не сумняваюся, што сустрэча з Папам пакіне на ўсё жыццё глыбокі след у душы кожнага чалавека. Будзем з надзеяй маліцца, каб Папа наведаў нашу краіну.

**Дзмітрый Кастрыцкі:**

– Пасля візіту ў Беларусь прадстаўніка Ватыкана П'етра Параліна я даведаўся пра магчымасць прыезду Папы Францішка ў нашу краіну і быў вельмі ўсцешаны з гэтай навіны. Беларусь, напэўна, адзіная краіна ў Еўропе, якую ніколі не наведваў Папа, нягледзячы на вялікую колькасць каталіцкіх вернікаў. Але цяпер такая магчымасць з'явілася.

Асабіста для мяне гэты прыезд мае вялікае значэнне не толькі як для звычайнага грамадзяніна, але як і для верніка. Памятаю з маленства, як разам з сям'ёю мы глядзелі па тэлевізары святочныя набажэнствы з Ватыкана з удзелам Папы Яна Паўла ІІ. Заўсёды была мара ўбачыць усё гэта ўжывую, пачуць яго цудоўныя казанні падчас набажэнства. Цяпер у Ватыкане новы кіраўнік – Папа Францішак, які таксама з'яўляецца прыкладам для ўсіх хрысціян. Чакаю і малюся Богу аб яго хуткім прыездзе ў Беларусь.

**Марыя Садоўская:**

– Яшчэ ніколі не выпадала на лёс беларускага народа, каб нашу краіну наведаў Папа. Менавіта таму гэта вельмі хвалюючы момант. Я вельмі чакаю Папу Францішка, бо ён з'яўляецца намеснікам Хрыста, нястомна прапаведуе любоў, радасць і супакой, якімі ахвотна дзеліцца з іншымі людзьмі, незалежна ад веравызнання, матэрыяльнага становішча, сацыяльнага статусу. Папа дае нам прыклад сапраўднай, жывой веры, натхняе на змаганне з грахом і як праўдзівы тата любіць нас. Улічваючы складаную палітычную сітуацыю, якая склалася на тэрыторыі суседніх дзяржаваў, я веру, што Папа дапаможа яе вырашыць з мірам. Урэшце, Папа атуліць сваім благаслаўленнем і малітвай нашу зблалелую ад войнаў і праследаў беларускую зямлю!

## Рэдакцыя дзякуе і віншуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра віншуем усіх вас са Святам Уваскрасення Езуса Хрыста! Дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **В.В. Пашкевіч** *(в. Бігосава)*, **Камелія Емяльянава** *(в. Дунілавічы)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Галіна Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Леаніда Шаблоўская** *(в. Радзюкі)*, **Ядвіга Аніськовіч** *(в. Новы Пагост)*, **Алег Шчалкун** *(в. Празарокі)*, **Феліцыя Небышынец** *(в. Дубовы Лог, Барысаўскі р-н)*, **Марыя Шкорнік** *(в. Даравое)*, **Рэгіна Бука** *(в. Радзюкі)*, **Сафія Ласоўская** *(в. Радзюкі)*, **Алімпія Цішко** *(в. Старыя Габы, Мядзельскі р-н)*, **парафіяне з Казянаў**, **Марыя Гайдукоўская** *(в. Прыпернае)*, **Ірына Палачаніна** *(ст. Параф'янава)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## Віншаванні ад чытачоў

### Віншуем!

*Шаноўны* ***ксёндз Сяргей Сурыновіч!***

*Сардэчна віншуем Вас з нагоды Дня нараджэння, які Вы адзначаеце 13 красавіка. Жадаем моцнага здароўя, шчодрых дароў Духа Святога, нястомнай апекі Маці Божай, благаслаўлення Езуса Хрыста, творчага натхнення і духоўнага плёну на далейшым шляху служэння Хрыстоваму Касцёлу.*

***З павагай і ўдзячнасцю вернікі парафіі св. Юзафа (в. Друйск Браслаўскага раёна)***

### Віншуем!

*Паважаныя* ***ксёндз-пробашч Раман Мурзіч, ксёндз Генадзь Рэйшэль****, а таксама* ***с. Марына і с. Бэрнадэта!*** *Ад імя ўсіх вернікаў парафіі імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве віншуем вас з радасным святам Уваскрасення Пана Езуса. Жадаем добрага здароўя, вытрымкі на нялёгкім шляху служэння Богу і людзям, Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай.*

***Вернікі з в. Параф'янава, Докшыцкі раён***

### Хвала Хрысту!

*22 красавіка ў нашага* ***ксяндза Юрыя Бараўнёва*** *Дзень нараджэння, а 23 красавіка – Дзень Анёла.*

*Сардэчна віншуем Вас, ксёндз Юрый, з Днём нараджэння і з Днём Анёла! Шчыра жадаем Вам здароўя, шчодрай Божай ласкі, апекі Маці Божай і святога Заступніка. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю. Душэўнага Вам супакою і добрых людзей побач.*

***Парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса, в. Круляўшчына***

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Падчас афіцыйнага візіту кардынал П'етра Паралін, Дзяржаўны Сакратар Папы, адзначыў, што каталіцкая супольнасць нашай краіны заслугоўвае прыезду Пантыфіка. А чаму беларускія каталікі чакаюць Папу?**



- Бо Папа – найвышэйшы кіраўнік Касцёла, сустрэча з ім – права кожнага каталіка; **94 галасы**
- Я проста вельмі люблю Папу Францішка! **92 галасы**
- Візіт Папы паспрыяе Касцёлу ў правядзенні больш шырокай рэлігійнай дзейнасці ў Беларусі; **81 голас**
- Бо ніводзін Папа яшчэ не быў у Беларусі; **31 голас**
- Папа мае высокі аўтарытэт у свеце, яго візіт узніме міжнародную значымасць Беларусі; **8 галасоў**
- Гэта дапаможа нармалізацыі адносін паміж Беларуссю і Захадам; **7 галасоў**
- Іншы адказ. **5 галасоў**

**Усяго: 318 галасоў**

Каталіцкі ВЕСНІК
№4(49)
красавік 2015 г.

# Каляндар на май



**Май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі. На працягу ўсяго месяца вернікі збіраюцца ў касцёлах, а таксама каля каплічак і прыдарожных фігураў Маці Божай, каб разам маліцца, просячы заступніцтва Марыі.**

Шырокае распаўсюджанне маёвае набажэнства набыло ў нас у XIX ст., але ўзнікла гэтая традыцыя значна раней. Вядома, што ўжо ў V ст. хрысціяне на Усходзе збіраліся, каб разам маліцца і спяваць песні на ўшанаванне Багародзіцы. На Захадзе ўжо ў I тысячагоддзі май дзенідзе лічыўся месяцам Марыі. Нарэшце, на мяжы XIII і XIV ст. узнікла думка прысвяціць гэты месяц Маці Божай. Першым гэта прапанаваў іспанскі кароль Альфонс X (памёр у 1284 г.). Манарх, які сам заўсёды ўдзельнічаў у маёвых набажэнствах, заахвочваў да гэтага ўсіх сваіх падданых.

### 13 мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Фацімскай.

У 1917 годзе ў невялікай вёсцы Фаціма, якая знаходзіцца ў гарах Партугаліі, тром пастушкам – Францыску Марто, Жасінце Марто і Луцыі Душ Сантуш – з'явілася прыгожая Панна, "Якая ззяла ярчэй за сонца". Гэта была Найсвяцейшая Панна Марыя.

Багародзіца аб'яўлялася дзецям кожны трынаццаты дзень месяца да кастрычніка таго ж года і падчас кожнага аб'яўлення прадказвала гісторыю чалавецтва ў XX стагоддзі, у прыватнасці, пераслед Касцёла і яго адраджэнне.

### 14 мая – свята Унебаўшэсця Пана.

Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з'яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне "Унебаўшэсце Пана" паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у "Дзеях Святых Апосталаў" (Дз 1, 9-11).

Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведае гэтую ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.

### 16 мая – успамін св. Андрэя Баболі – апекуна Пінскай дыяцэзіі.

Святога пакутніка за яго місіянерскую дзейнасць называюць "Апосталам Палессся" і "Пінскім апосталам". Святы Андрэй Баболя нарадзіўся ў 1591 годзе, а ў 1611-ым уступіў у Таварыства Езуса (езуітаў). Пасля навучання ў Віленскай езуіцкай акадэміі і святарскага пасвячэння быў накіраваны на душпастырскую працу. З 1636 года працаваў сярод уніятаў, узмацняючы іх у каталіцкай веры. Схоплены праваслаўнымі казакамі, ён быў жорстка закатаваны ў Янаве Палескім (сёння Іванава) 16 мая 1657 г.

### 24 мая – Спасланне Духа Святога (Пяцідзясятніца).

Гэта адно з самых старажытных свят Каталіцкага Паўсюднага Касцёла. Спасланне Духа Святога – гэта памятка першага дня апостальства, гэта дзень нараджэння адзінага Касцёла.

Урачыстасць адзначаецца два дні. Другі дзень святы Айцец, Папа Рымскі Павел VI, устанавіў святам Марыі – Маці Касцёла. У гэты дзень людзі ўпрыгожваюць бярозавымі дрэўцамі касцёл, дамы, памяшканні і кватэры.

### 31 мая – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.

Вера ў адзінага Бога ў трох асобах з'яўляецца адным з самых характэрных элементаў хрысціянства. У ніякай іншай рэлігіі гэтая таямніца не выступае прадметам веры. Існаванне Тройцы – дагмат нашай веры. Мы б ніколі не дайшлі да гэтага толькі чалавечым розумам. Пра гэта нам аб'явіў Езус Хрыстус.

Асобнае свята ў гонар Святой Тройцы ў літургіі з'явілася параўнальна позна, у адзінаццатым стагоддзі. У 1334 годзе Папа Ян XXI распаўсюдзіў яго на ўвесь Касцёл. Святы Руперт, ігумен з Отабойрэна (каля 1180 г.), ведае пра гэта свята і тлумачыць, чаму яно было змешчана ў наступную нядзелю пасля Пяцідзясятніцы: "Таму што неўзабаве пасля спаслання Святога Духа праўда Хрыста і хрост, які Ён загадаў удзяляць у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, былі распаўсюджаны па ўсім свеце. Таму гэтая ўрачыстасць з'яўляецца прыгожым закрыццём цыклу выратавання".

Каб паглыбіць сярод вернікаў адданасць Найсвяцейшай Тройцы, Касцёл у сваёй літургічнай малітве дадае: "Хвала Айцу і Сыну, і Духу Святому". Касцёл ва ўсіх сваіх малітвах звяртаецца да Бога ў трох асобах: кожная літургічная малітва заканчваецца заклікам Найсвяцейшай Тройцы.

# Як адкінуць страх перад споведдзю?

***"Хвала Хрысту! Адкажыце, калі ласка, як адкінуць страх перад споведдзю?"***
*Алег*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Цалкам натуральна, што чалавек баіцца паспавядацца. Мы не ідзём расказваць пра свае подзвігі, а зусім наадварот. Некаторыя ў гэтым страху заўважаюць дзеянне злога духа: спачатку злы дух спакушае чалавека, прываблівуючы яго да граху, а потым перашкаджае ў ім прызнацца.

Страх можа быць звязаны з асобай святара, якому мы плануем спавядацца. Варта памятаць, што мы спавядаемся Богу праз святара. Бог і так ведае нашыя грахі, і таму няма сэнсу іх утойваць.

Святары сутыкаюцца з вялікай колькасцю тых, хто прыступае да споведзі, і за часы сваёй паслугі пачулі многае і ад многіх. Таму няхай нікога не стрымлівае спакуса: а што пра мяне падумае ксёндз? Тым больш што святары неідэальныя людзі і самі спавядаюцца.

Калі ў некага не атрымліваецца пераадолець бар'ер, каб паспавядацца ў нейкага канкрэтнага святара, то няхай пашукае іншага. Пенітэнт сам выбірае, у каго ён спавядаецца.

Аднак першая парада, якая прыходзіць на думку ў адказ на Вашае пытанне, – не адкладвайце споведзь і памятайце, што ў навяртанні няма лёгкіх дарог.

# Як навучыцца не асуджаць людзей?

***"Хвала Хрысту! Як навучыцца не асуджаць людзей?"***
*Алег*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Асуджэнне іншых наўпрост звязана з узвышэннем сябе. Мы нікога не зможам асудзіць, не ўзвысіўшыся над гэтым чалавекам. Іншымі словамі, мы адначасова лічым сябе лепшымі за тых, каго асуджаем. Узгадаем вядомы прыклад, які прыводзіў Езус: *«Фарысей, стоячы, так маліўся ў сабе: "Божа, дзякую Табе, што я не такі, як іншыя людзі: рабаўнікі, несправядлівыя, чужаложнікі або як гэты мытнік»* (Лк.18, 11).

Адпаведна лекамі ад асуджэння стане пазнанне сваёй недасканаласці і грэшнасці. Кожнаму з нас ёсць за што пакаяцца, у кожнага з нас ёсць свае недахопы.

Тамаш Кемпійскі ў сваёй вядомай кнізе "Пра наследаванне Хрыста" пісаў: *"Паспрабуй змяніць сябе і ты пабачыш, наколькі марныя твае спробы змяніць іншых"*.

Не будзем забываць і выпадак з блудніцай, прыведзенай да Езуса, калі Пан адказаў тым, хто прывёў яе: *"Хто з вас без граху, няхай першы кіне ў яе камень"* (Ян. 8, 7).

Таму перш чым кагосьці асудзіць, задайце сабе пытанне: а я сам бездакорны ва ўсім? Бо сказана: *"Крывадушнік, выкінь перш бэльку з твайго вока, і тады ўгледзіш, як вымуць стрэмку з вока брата твайго"* (Мц. 7, 5).

## На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

● **1 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Андрэй Кулік** (Дзеркаўшчына), **кс. Леанід Мозгель** (Павяцце), **кс. Эдвард Нарадоўскі** (Задарожжа);

● **2 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Чэслаў Курэчка MIC** (Росіца);

● **3 мая** – імяніны адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** (Ватыкан), **кс. Аляксандр Баран** (Новалукомль), **кс. Аляксандр Грыцкевіч** (Дзісна), **кс. Аляксандр Дулінец** (Падсвілле), **кс. Аляксандр Жарнасек** (Орша), **кс. Аляксандр Півавар** (Бешанковічы), **кс. Аляксандр Чайкоўскі** (Наваполацк), **кс. Аляксандр Рагіня** (Казахстан); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Іван Кароткін** (Віцебск);

● **7 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** (Талачын);

● **8 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** (Слабодка), **кс. Павел Кнурэк** (Лынтупы); імяніны адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** (Віцебск);

● **10 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Пётр Кубіцкі SAC** (Талачын);

● **13 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, кс. Вячаслаў Барок** (Расоны), **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** (в. Парыж), **кс. Марат Казлоўскі** (Мосар), **а. Вальдэмар Куява OFMConv** (Удзела), **кс. Ян Пугачоў** (Германавічы), дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** (Іказнь);

● **14 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** (Дуброўна);

● **15 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Віктар Місевіч** (Глыбокае), **кс. Генадзь Рэйшэль** (Параф'янава), **кс. Ігнат Санюта** (Ахрэмаўцы), **кс. Міхаіл Татарэнка** (Лужкі);

● **16 мая** – імяніны адзначае **кс. Андрэй Таўрук** (Іказнь), гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Анджэй Бочар MS** (Далёкія), **кс. Ежы Ноцунь SCJ** (Барадзенічы);

● **17 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. пралат Кшыштаф Мянкіна** (Мёры);

● **18 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Аляксандр Рагіня** (Казахстан);

● **19 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Казімір Акушка** (Плюсы), **кс. Юры Барок** (Расоны);

● **20 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** (Відзы), **кс. Зянон Шчонхар MS** (Відзы);

● **21 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Тамаш Міка OP** (Віцебск), **кс. пралат Мечыслаў Янчышын** (Глыбокае);

● **22 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** (Віцебск), **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** (Браслаў), **кс. Вадзім Прасяной SCJ** (Паставы);

● **25 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. біскуп Уладзіслаў Блін**;

● **26 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Лукаш Красінскі SDS** (Браслаў), **а. Шымон Фораўтэр MS** (Шуміліна), дзень нараджэння адзначае **кс. Эдвард Нарадоўскі** (Задарожжа);

● **28 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Адам Квяткоўскі** (Віцебск), **кс. Тадэвуш Дабравольскі SDS** (Браслаў);

● **29 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Яраслаў Банасяк OFM** (Удзела), **кс. Ежы Вільк SCJ** (Паставы), дзень нараджэння адзначае **кс. Яцэк Хутман** (Камаі);

● **30 мая** – імяніны адзначае **кс. Генадзь Добрук** (Ідолта), дзень нараджэння адзначае **кс. Антоні Зэмба SDS** (Браслаў), гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Адам Дынак** (Віцебск);

● **31 мая** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. пралат Францішак Кісель** (Полацк), **а. Юрый Катовіч OFMCap** (Докшыцы), **а. Анджэй Юхневіч OMI** (Шуміліна), **а. Пётр Ясевіч OFMCap** (Докшыцы), **кс. Аляксей Ляшко** (Італія), дзень нараджэння адзначаюць **біскуп Уладзіслаў Блін, кс. Адам Дынак** (Віцебск).

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў.**

*Падрыхтавала* ***Марына Ткач***

# Што дрэннага ў татуіроўках?

*"Хвала Хрысту!*
***Што дрэннага ў татуіроўках?"***
*Аляксандр*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Пытанне пра дазвол ці забарону татуіровак у Каталіцкім Касцёле ўзнікае заўсёды, калі вернікі чытаюць тэкст св. Пісання: "*Дзеля памерлага не рабіце нарэзаў на целе вашым і не наколвайце на сабе тэкстаў. Я Пан Бог ваш*" (Лев. 19, 28). Сапраўды, здаецца, што св. Пісанне забараняе гэтым сказам татуіроўкі. Але давайце зазірнём у асяроддзе, якое паўплывала на з'яўленне так званага "Кодэксу святасці" – Кнігі Левіт. На сённяшні дзень пераважная большасць біблістаў мае перакананне, што "Кодэкс святасці" паўстаў перад Вавілонскім палонам (VIII-VII стст. перад Нар. Хр.) у асяроддзі ерусалімскіх святароў. Значэнне "Кодэксу святасці" ў тым, што ён, запэўніваючы ў святасці Бога, жадае таксама святасці ад ізраільцянаў. Святасць, акрэсленая ў габрэйскім тэксце паняццем "кодэш", азначае, між іншым, "аддзелены". Святы – гэта аддзелены ад таго, што грэшнае, што пазначана скажэннем. Такі Бог, і такімі Ён хоча бачыць сваіх вызнаўцаў. І тут вырашальным момантам будзе мера любові, якую пазней у Новым Запавеце паўторыць Езус Хрыстус: "Любі бліжняга свайго, як самога сябе".

Як сябе любіць? Гэта вельмі шырокая тэма, але згодна з 28 вершам 19 раздзела Кнігі Левіт, гэтая любоў заключаецца ў тым, што вызнаўца Бога не будзе дзеля памерлага рабіць нарэзаў на целе і не будзе наколваць на сабе тэкстаў. Чаму так і чаму святасць заклікае да аддзялення? Бо навакольныя сілы і ўплывы стараюцца адцягнуць чалавека ад гармоніі і камуніі з Усявышнім. Народы, якія жылі побач альбо нават сярод ізраільцянаў, неслі ў сабе пагрозу аддаліць ізраільцян ад жыцця ў праўдзе. Вось чаму гэтыя язычніцкія народы мелі, між іншым, скажонае ўяўленне пра ролю цела чалавека. І гэтаму служылі адлюстраванні ў наколках і татуіроўках, якія тыя ж язычнікі насілі на сваіх целах. Менавіта таму "Кодэкс святасці" забараняе ізраільцянам наследаваць гэтыя грэшныя звычаі, бо яны нясуць згубнае вучэнне пра ролю цела, і праз розныя выявы на целе аддаецца свайго кшталту даніна бажкам, пакланенне якім вядзе да дысгармоніі і немагчымасці любіць Бога і сябе, а таксама бліжняга, як сябе.

Падсумоўваючы, можна смела сцвярджаць, што татуіроўкі Касцёл не забараняе, калі мэта іх змяшчэння на сваім целе не з'яўляецца антыхрысціянскай. Таму нельга насіць татуіроўкі, калі яны змяшчаюць немаральныя, сатаністычныя ці іншыя супраціўныя праўдзе і вучэнню Касцёла выявы. Але незабарона не азначае пахвальбы: ці ж можа чалавек штосьці дадаць да Богам створанага цела?

Уявіце, што Вы маеце аўтамабіль "Ферары". Ці захочацца Вам клеіць штосьці на бампер гэтага аўтамабіля, які ўжо адной назвай будзе абуджаць захапленне? Так і чалавек: перш чым штосьці зрабіць на сваім целе, варта задумацца над вялікай годнасцю гэтага цела, якое ёсць святыняй Духа Святога (пар. 1 Кар 3,16).

# Памяці паэта



**Стала вядома, што15 сакавіка 2015 года памёр паэт і празаік Аркадзь Нафрановіч. Ён быў сталым аўтарам "Каталіцкага Весніка" і часта дасылаў нам свае лісты з вершамі. Сёння мы друкуем апошні верш паэта, якім ён захацеў падзяліцца з чытачамі Весніка. Рэдакцыя выказвае шчырае спачуванне родным і блізкім памерлага. Спадзяемся, што Аркадзь сёння бачыць аблічча ўваскрослага Хрыста ў Нябесным Валадарстве, якому верыў і якога праслаўляў сваім талентам.**

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

## Сын Божы ўваскрэс

**Аркадзь Нафрановіч**

*1. Начны паволі знікнуў цень,*
*І сонца асвяціла долы.*
*Заняўся велікодны дзень,*
*Спявалі гімн яму анёлы.*

*І, помню, маці раніцой*
*Мой перарвала сон дзіцячы:*
*– Сынок, хадзі глядзець са мной,*
*Як сонейка сягоння скача.*

*І быў я здзіўлены нямала,*
*Як зачараваны стаяў:*
*Такіх яшчэ не бачыў з'яў –*
*Свяціла сапраўды скакала.*

*І я расчуліўся да слёз.*
*А маці, гледзячы на сонца,*
*Сказала: – Уваскрэс Хрыстос,*
*Заступнік наш і абаронца.*

*2. Пяе душа, настрой святочны,*
*Я з храма Божага іду,*
*Дамоў спяшаю з усяночнай,*
*Нясу свянцоную ваду.*

*О гэта раніца святая! –*
*Павесялела ўсё наўкол.*
*Мая сям'я мяне чакае,*
*Каб разам сесці нам за стол.*

*Зацеплім свечку і вадзіцы*
*Асвечанай усе глынём,*
*І справім трапезу ў святліцы*
*Вясёлым велікодным днём.*

*3. Я з кожным велікодным днём*
*Бы нараджаюся нанова.*
*Прыходзіць радасць у мой дом,*
*І поўніцца ён Божым Словам.*

*Хрыстос-Збавіцель уваскрэс!*
*Такая светлая часіна!*
*Трава зазелянела спрэс,*
*І льецца мілы спеў шпачыны.*

*Цяплее зноў блакіт нябёс,*
*І песцяць вочы жыта ўсходы.*
*Жыве ў маёй душы Хрыстос!*
*І будзе жыць у ёй заўсёды!*

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**12 красавіка 2015 г. Ян 20, 19-31**

Крыніцай ведаў пра змёртвыхпаўстанне Хрыста для сучасных людзей з'яўляецца сведчанне апосталаў. Доказам ёсць іх смерць і святое жыццё. Але кожны з нас мае таксама свой асабісты вопыт веры, калі мы дакрануліся да Езуса ў Божым слове і здарэннях нашага жыцця.Такі дотык да Бога, Які любіць, Які блізка бывае ў пачатку нашай сур'ёзнай дарогі веры. З цягам часу ўсё больш выразна бачым дзеянне Божага Духа ў нашым жыцці. Трэба час ад часу аднаўляць у сабе той першапачатковы заклік «Пан мой і Бог мой». Трэба вучыцца шукаць знакаў Божай прысутнасці. Трэба чытаць і разважаць над Божым словам, каб паверыць, што Езус – Месія, Божы Сын. А яшчэ трэба жыць, сваім жыццём пацвярджаючы, што Ён – наш Пан.

*– Ці ўражлівы я на натхненне Божага Духа?*

*– Ці разважаю над Божым словам, каб зразумець, якія дарогі – Божыя? І якім чынам Бог хоча будаваць мае адносіны з Ім?*

*– Ці сур'ёзна стаўлюся да прызнання ў час хросту Езуса сваім Панам?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці шукаю мудрасці ў вопытных людзей, якія жывуць у еднасці з Богам?*

*– Ці чытаю якасную духоўную літаратуру?*

*– Ці чытаю і разважаю над жыццём святых людзей?*

*– Ці размаўляю з Богам у малітве?*

*– Ці засяроджваюся на Божай прысутнасці падчас малітвы?*

*– Ці малюся перад Найсвяцейшым Сакрамантам?*

*– Ці цаню сустрэчы з Богам на Імшы і ў іншых сакрамантах?*

*– Ці прашу Бога аб умацаванні маёй веры?*

**19 красавіка 2015 г. Лк 24, 35-48**

**Змёртвыхпаўсталага Езуса сустракаюць вельмі спалоханыя і асцярожныя людзі.** Сэрцы вучняў поўныя сумненняў. Здарэнні, якія адбываюцца, а таксама жэсты Езуса з'яўляюцца доказам сапраўднасці Уваскрасення. Аднак патрэбнае яшчэ тлумачэнне сэнсу гэтых здарэнняў. Езус адорвае вучняў святлом Духа Святога, каб разумелі сэнс здарэнняў і сэнс прароцтваў Святога Пісання. Так мацнее іх вера, якой дастаткова, каб ісці і сведчыць аб перамозе Хрыста.

*– Якая мая вера?*

*– Ці клапачуся пра асабістае духоўнае развіццё?*

*– Якім чынам гэта раблю?*

*– Ці сустракаюся з Езусам падчас малітвы?*

*– Ці распавядаю Яму пра свае справы, пытанні і сумненні?*

*– Ці слухаю, што Езус адказвае?*

*– Ці хачу пачуць адказы на скіраваныя да Яго пытанні?*

*– Ці разважаю над Божым Словам, у якім ёсць адказы на пытанні, звернутыя да Бога?*

*– Ці вывучаю навуку Касцёла, каб умацаваць сваю веру?*

*– Ці прашу дароў Духа Святога, каб Бог дапамагаў мне добра разумець Яго навуку?*

*– Ці прашу Бога, каб даў мне мудрасці распазнаваць Яго дзеянне ў знаках, якія Ён звяртае да мяне ў маім жыцці і ў жыцці іншых людзей?*

*– Ці з павагай стаўлюся да навучання Касцёла, якое перадае нам сведчанне апосталаў Езуса?*

**26 красавіка 2015 г. Ян 10, 11-18**

Езус – Добры Пастыр, таму што ахвяруе на крыжы сваё жыццё за выратаванне кожнага з нас, Ягоных авечак. Ён гэта робіць добраахвотна, з любові да нас. Ён – Пан жыцця і мае ўладу нас уваскрасіць. Яго любоў да кожнага з нас праяўляецца ў тым, што Ён асабіста, коштам свайго жыцця, змагаецца за нас. Ён нас добра ведае, Яго любоў пранізвае нас цалкам і Яго Слова даходзіць аж да глыбіні нашага сэрца, калі мы Яму гэта дазваляем і калі слухаем Яго. Запрашэнне Езуса ісці за Ім мае вельмі вялікую інтымную сілу, бо скіравана індывідуальна да кожнага з вялікім веданнем нашай душы.

*– Што я думаю пра Бога?*

*– Ці суладнае маё ўяўленне пра Бога з тым, што Ён пра сябе гаворыць у Біблії?*

*– А можа, маё ўяўленне пра Бога скалечана маімі грахамі ці праблемамі ў адносінах з людзьмі?*

*– Ці бачу я Божую дабрыню ў маім жыцці?*

*– Ці дзякую Богу і ці праслаўляю Яго падчас малітвы?*

*– Ці дазваляю, каб Бог паклапаціўся пра найбольш інтымную сферу майго жыцця?*

*– Ці дазваляю, каб Бог дапамог маёй душы праз любоў Касцёла, святара і добрых сяброў?*

*– А можа, не прымаю пасланых мне Богам людзей?*

*– Ці слухаю голас сумлення?*

*– Ці выконваю натхненне Духа Святога?*

*– А можа, занядбоўваю малітву?*

*– Можа, гэта малітва з'яўляецца павярхоўнай?*

*– Ці памятаю, што на малітве знаходжуся ў Божай прысутнасці?*

*– Ці праяўляецца гэта праз паставу на малітве, месца малітвы, вернасць малітве?*

*– Ці змагаюся, каб падчас малітвы захаваць увагу?*

*– Ці дазваляю, каб Божае Слова песціла і ўмацоўвала маю душу?*

*– Ці вучуся разважаць над Божым Словам?*

**3 мая 2015 г. Ян 15, 1-8**

Мы пакліканыя, каб жыць паводле запаведзі любові. Каб вера наша прыносіла плёны ў выглядзе любові. Толькі ў еднасці з Езусам мы можам прыносіць плёны. Ён ёсць Любоў, і Ён ажыўляе нас "сокам Духа Любові". Бог нас ачышчае праз сваё слова і робіць здольнымі прыносіць плён. Калі мы разарвём нашу еднасць з Езусам, то страцім веру, надзею і любоў. І жыццё нашага духа будзе падобным да засохлай галінкі, якую можна толькі кінуць у агонь. Без Езуса мы нічога не можам, а разам з Ім будзем рабіць справы, пра якія нават не марылі.

*– Ці нараджае мая вера любоў?*

*– Ці жыву я паводле закону любові Бога і бліжняга?*

*– Ці шукаю сілы ў еднасці з Езусам?*

*– Ці прыступаю да сакрамантаў, асабліва да Святой Камуніі?*

*– Ці малюся?*

*– Ці слухаю Слова Божае?*

*– Што можна было б перамяніць і палепшыць у выкананні гэтых практык?*

*– Ці шукаю ведаў і настаўнікаў духоўнага жыцця?*

*– Ці давяраю ў гэтай справе Касцёлу?*

*– А можа, шукаю духоўнасці па-за Касцёлам і па-за Езусам?*

*– Ці дапускаю Езуса, каб Ён быў Панам майго жыцця?*

*– Ці думаю паводле Яго навукі?*

*– Ці прымаю рашэнні згодна з Яго воляй?*

*– А можа, лічу сябе найразумнейшым?*

*– Можа, не давяраю свайго жыцця, сваіх спраў і сваёй душы Богу цалкам?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Велікодная раніца

**Вялікдзень – гэта свята пераходу ад няволі смерці да свабоды вечнага жыцця, свята аднаўлення ўсяго стварэння ў Езусе Хрысце. Вялікдзень таксама называюць Пасхай, што ў перакладзе з габрэйскай мовы азначае "пераход".**



Свята Вялікадня ўзяло свой пачатак ад габрэйскай Пасхі, святкаванне якой было звязана з выйсцем выбранага народа з егіпецкай няволі ў абяцаную зямлю.

Пасля святой Імшы ўся сям'я збіраецца каля святочнага стала, на якім стаяць стравы, асвечаныя напярэдадні.

## Малітва

Перад тым, як выказаць пажаданні і падзяліцца асвечаным яйкам, бацька альбо маці чытае ўрывак з Евангелля (Ян 20, 1-18).

**Бацька звяртаецца да сям'і:**

*Для Апосталаў, для жанчын, якіх узгадвае святы Ян, для хрысціянаў усіх часоў і для нас – гэта самая вялікая радасць, падстава нашай надзеі: Езус Хрыстус за нас памёр і ўваскрос! Езус уваскрослы ёсць з намі! Вядзе нас да ўваскрашэння і хвалы, да вечнай любові і да супольнасці з Нябесным Айцом.*

*Дзякуем за тое, што можам сёння адзначаць урачыстасць Уваскрасення Пана.*

*Просім жа, каб Валадарства ўваскрослага Пана ўсё больш ахоплівала нашыя сэрцы, сэрцы ўсіх людзей, каб супакой, які прынёс наш Пан, запанаваў ва ўсім свеце.*

*Ойча наш... Хвала Айцу...*

Пасля гэтага ўсе дзеляцца асвечаным яйкам, выказваючы адно аднаму пажаданні, і сядаюць за стол, прыступаючы да ўрачыстага снядання.

## Абавязковыя стравы на стале

Пачынаюць есці абавязкова з асвечаных страў. На велікодны, пасхальны стол вернікі звычайна ставяць усе няпосныя стравы. Гэта азначае, што яны ўжо гатовыя святкаваць з радасцю Уваскрашэнне Хрыста.

Неабходнымі элементамі з'яўляюцца асвечанае яйка, хлеб, мяса і соль, а таксама хрэн, перац – усё гэта мае сваё сімвалічнае значэнне. Хлеб павінен нагадваць пра Хлеб Жывы, які сышоў з неба, гэта значыць, пра святую Камунію. Вяндліна, хрэн, перац і соль – адпаведнікі біблейскіх страваў, якія мелі габрэі перад выйсцем з егіпецкай няволі. Часам хрэн сімвалізуе цяжкасці жыцця Езуса. А яйка – сімвал новага жыцця.

Вернікі, здымаючы фарбаванае шалупінне з яек, як бы вызваляюцца ад граху і пераходзяць да новага, чыстага, беззаганнага жыцця. І ў гэты момант узгадваюцца словы з кнігі прарока Ісаі: *"Калі грахі вашыя будуць, як чырвань, – збялеюць як снег; калі будуць барвовыя, як пурпур, – стануць як воўна".*

Гэтыя стравы лічацца абавязковымі на стале, і з іх менавіта распачынаецца пасхальнае снаданне.

Пасля снядання усе моляцца словамі: *"За гэты пасілак, за ўсе Твае дабрадзействы і за пакліканне нас да вечнага жыцця праслаўляем Цябе, Божа, праз уваскрослага нашага Пана Езуса Хрыста, які з Табой жыве і валадарыць на вякі вечныя. Амэн".*

Пытанне

## Што азначаюць слёзы падчас малітвы?

***"Хвала Хрысту! Хацелася б даведацца, што азначаюць слёзы падчас малітвы?"***
*Ірына*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Слёзы падчас малітвы могуць азначаць эмацыянальнае ўзрушэнне. Не трэба гэтага саромецца або змагацца з гэтым. Кожны праяўляе свае эмоцыі, свае пачуцці па-рознаму. Ды і той самы чалавек у розныя моманты па-рознаму паводзіць сябе падчас малітвы: танчыць, засяроджваецца, плача...

Хрыстос перасцерагае людзей маліцца напаказ, таму калі слёзы не спалучаны з жаданнем звярнуць на сябе ўвагу, калі ўсё адбываецца спантанна, то гэта можа быць дар, праз які Бог хоча падтрымаць нас у малітве. Камусьці было б вельмі цяжка маліцца без падобнага эмацыянальнага ўздыму, такая асоба магла б расчаравацца, мяркуючы, што яна толькі бяздумна паўтарае словы.

Слёзы падчас малітвы яшчэ раз даюць нам магчымасць адчуць, што моліцца ўвесь чалавек – яго розум, цела, душа... Не варта спецыяльна імкнуцца да такога плачу. Таксама слёзы могуць быць звязаны і са смуткам за ўчынены грэх, і з адчуваннем блізкасці Бога.



## Дзякуй за добрае і чулае сэрца

*Ад імя вернікаў в. Казяны парафіі Нараджэння Панны Марыі ў Відзах (Браслаўскі раён) віншуем нашага* ***ксяндза-дэкана Альфрэда Пяхоту*** *з Уваскрасеннем Хрыстовым.*

*Сардэчна дзякуем нашаму дарагому пробашчу Альфрэду за капліцку, дзе мы часта збіраемся і ў супольных малітвах падтрымліваем сувязь з Богам, вылечваем нашы душы і сэрцы. Дзякуючы энтузіязму, стараннасці, цярпенню святара наша маленькая святыня стала прыгожай і ўтульнай, а мы маем магчымасць узбагачацца духоўна.*

*Шмат сваіх сіл і энергіі аддаў кс. Альфрэд на адраджэнне касцёла ў Відзах. Яго намаганнямі гэтая вялікая святыня з кожным годам прыгажэе і прыгажэе. У 2014-м годзе касцёл адзначыў свой 100-гадовы юбілей, а ксёндз-дэкан – 25-годдзе душпастырскай службы. У Браслаўскі раён святар прыехаў з Польшчы. Напачатку яму было цяжка разумець, размаўляць і весці службу на беларускай мове. Але дзякуючы прыкладзеным намаганням моўны бар'ер быў пераадолены, мы заўсёды знаходзім паразуменне.*

*Да нашага шаноўнага святара Альфрэда мы можам звярнуцца па дапамогу ў розных жыццёвых праблемах і пытаннях у любы час. Ён ніколі не адмовіць, заўсёды ўважліва выслухае, дасць слушную параду, заспакоіць і ўселіць надзею на Божую міласэрнасць. Кожнае яго слова моцна западае ў душу. Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што ў нашай парафіі працуе сапраўдны пастыр, які ўласным прыкладам вызнання веры і абвяшчэннем слова Божага вядзе нас па дарозе Праўды. Нізка кланяемся і дзякуем нашаму пробашчу Альфрэду за яго словы навяртання, за старанне і за ўсё зробленае ім для росквіту нашага касцёла.*

*Няхай Усемагутны Бог дапамагае яму ў ажыццяўленні планаў, а Маці Божая няспынна моліцца за добрага і ўлюбёнага нашага святара перад Божым тронам, хай ахінае сваёй апекай і прытуляе да свайго Матчынага сэрца! Моцнага здароўя на доўгія гады і жыццёвай мудрасці ў выкананні штодзённых спраў!*

*Святар – дарадца, мудры і цярплівы,*
*У час патрэб звяртаемся да Вас,*
*Каб шчырым словам, часам жартаўлівым,*
*Вы па-бацькоўску падтрымалі нас.*

*Прыміце сёння нашы віншаванні,*
*Паклон падзякі нізкі да зямлі.*
*Здароўя Вам і благаслаўлення Пана,*
*Апекі Маці Божай, цеплыні!*

*Каб кожны дзень, асветлены дарамі*
*Святога Духа, Праўдай адкрыцця,*
*Віталі мы сардэчна разам з Вамі!*
*Вам доўгіх і шчаслівых год жыцця!*

***Парафіяне з в. Казяны Браслаўскага раёна***


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 2120

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 01.04.2015 г. у 09.30

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621
9772224962006

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь